№ 83 (4130)

25 кастрычніка 2016 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

www.nv-online.info

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ДВА БАКІ МЕДАЛЯ

## Мэта апраўдвае сродкі?

*Другія Еўрапейскія спартыўныя гульні пройдуць у 2019 годзе ў Беларусі.*

Першыя, як вядома, адбыліся ў Азербайджане, і, паводле некаторых ацэнак, калі скласці сродкі, заяўленыя ў бюджэтных выдатках на гульні за тры гады, то іх сума перавысіла 5 млрд долараў.

Тым часам у беларускіх спартыўных чыноўнікаў настроі з гэтай нагоды даволі аптымістычныя. Паводле слоў памочніка прэзідэнта па справах фізкультуры і спорту **Максіма Рыжанкова**, беларускаму боку ў плане падрыхтоўкі абяцана падтрымка і ўжо прадстаўлены пэўныя кампаніі, якія з'яўляюцца партнёрамі еўрапейскіх нацыянальных алімпійскіх камітэтаў і Міжнароднага алімпійскага камітэта, – разам з Беларуссю яны будуць ажыццяўляць маркетынгавую і прамоўшнпраграму з накіраваннем большасці даходаў на пакрыццё расходаў па правядзенні маштабнага спартыўнага мерапрыемства.

«*У мінус мы дакладна не выйдзем*, – заявіў Рыжанкоў на АНТ. – *Нават тыя фінансавыя выдаткі, якія мы панясём, яны ўсё роўна застануцца ў краіне. Другую частку выдаткаў (гэта па пералёце) гатовы ўзяць на сябе еўрапейскія алімпійскія камітэты. Нам дазволілі выкарыстаць для алімпійскай вёскі студэнцкі гарадок. Хіба гэта будзе дрэнна для нашых студэнтаў? Яны атрымаюць пасля гульняў абноўлены гарадок*».

"*Як можна казаць пра фінансавы складнік, калі на гэтай стадыі, напэўна, і самі арганізатары не могуць сказаць пра поўную суму выдаткаў?* – здзіўляецца эканаміст **Яраслаў Раманчук,** які аказаўся не такім аптымістам, як Рыжанкоў. – *Напэўна, не было выпадку, каб нейкае буйное спартыўнае мерапрыемства строга "ўпісвалася" ў зараней запланаваны бюджэт. Таму я ўпэўнены, што выдаткі будуць большымі ў разы. І сёння ніхто не ведае, у якім стане будзе беларуская эканоміка ў 2019 годзе. Безумоўна, знойдуцца тыя, хто на гэтым мерапрыемстве заробіць. Турфірмы, бары, рэстараны... Але краіне ў гэтым плане не варта разлічваць на фінансавыя дывідэнды, калі падлічыць, колькі патрацім і колькі атрымаем. З вялікай доляй верагоднасці можна прагназаваць, што акажамся ў мінусе. Пытанне толькі ў даўжыні гэтага мінуса і ў яго глыбіні для беларускіх падаткаплацельшчыкаў*".

А вось былы міністр спорту **Уладзімір Грыгараў** распавёў "Народнай Волі", якія плюсы можа атрымаць Беларусь ад правядзення Еўрапейскіх гульняў.

"*Па-першае, хачу адзначыць, што ўвогуле ініцыятыва правядзення такіх гульняў у Еўропе належала беларускаму боку*, – кажа ён. – *Тады я яшчэ працаваў на пасадзе міністра спорту. Не магу рабіць расклад па фінансах, якія спатрэбяцца, але, думаю, прымаць такія Гульні – прэстыж для краіны. Сюды прыедзе шмат спартсменаў і трэнераў, турыстаў, бо зноў плануюць зрабіць бязвізавы ўезд... Мы будзем набірацца вопыту ў правядзенні такіх адказных міжнародных мерапрыемстваў, упэўнены, што палепшыцца і імідж краіны. Я лічу, што адмаўляцца ад правядзення Еўрапейскіх гульняў не варта*".

**Алесь СІВЫ.**

РЕЙТИНГ

## Социальное равенство и... высокие налоги

*Программа развития ООН в октябре обнародовала региональный доклад, посвященный уровню неравенства в Восточной Европе, Центральной Азии и Турции. Оказалось, что Беларусь в своем регионе выделяется низкой степенью расслоения общества. Эксперты считают, что поддерживать это достижение государству будет весьма сложно.*

Авторы отчета ПРООН использовали классический критерий оценки неравенства в обществе – коэффициент Джини – отражающий степень дифференциации денежных доходов населения. Данный коэффициент во многих случаях измеряется от нуля до единицы (или от 0% до 100%) – чем больше значение этого показателя, тем выше считается степень неравенства.

Оценки, приведенные в октябрьском отчете ПРООН, свидетельствуют, что в Беларуси один из самых низких уровней расслоения общества в регионе. Если в Армении коэффициент Джини составляет 37%, в Грузии – 41%, в Кыргызстане – 43%, то в Беларуси – 28%.

**Уровень неравенства в странах Восточной Европы, Центральной Азии и Турции**
*(коэффициент Джини, в %)**

| | 2006 | 2010 | 2014 |
|---|---|---|---|
| Армения | 37 | 36 | 37 |
| **Беларусь** | **26** | **27** | **28** |
| Грузия | 45 | 46 | 41 |
| Казахстан | 31 | 28 | 28 |
| Кыргызстан | 45 | 37 | 43 |
| Молдова | 37 | 35 | 32 |
| Сербия | 33 | 33 | 38 |
| Турция | 43 | 40 | 39 |
| Туркменистан | 30 | 29 | 29 |
| Украина | 33 | 25 | 23 |

**Коэффициент Джини рассчитан на основании официальных статистических данных за 2006–2014 годы.*

А вот по экономическим показателям, как свидетельствуют данные отчета ПРООН, Беларусь выглядит в мире не лучшим образом: наша страна находится в лидерах по уровню налоговой нагрузки.

Так, налоги предприятий на рабочую силу относительно прибыли в Беларуси составляют 39%, среди стран Восточной Европы и Центральной Азии выше уровень налоговой нагрузки только в Украине – 43% (средний показатель по миру – 16%).

ФОРУМ


Фото BELTA.BY

## «Наперадзе шмат працы»

Не заўважыць гэтага нельга: адосіны паміж Польшчай і Беларуссю цяплеюць з кожным днём.

На пазамінулым тыдні польскую сталіцу з рабочым візітам наведаў міністр замежных спраў Беларусі **Уладзімір Макей.** У Варшаве ён сустракаўся не толькі са сваім калегам **Вітальдам Вашчыкоўскім**, але і з прэзідэнтам **Анджэем Дудам.** А ўчора адкрываць беларуска-польскі эканамічны форум "Добрасуседства-2016" прыехаў намеснік прэм'ер-міністра Польшчы, міністр развіцця і фінансаў **Матэвуш Маравецкі.** Прычым спачатку Маравецкі сустрэўся з **Аляксандрам Лукашэнкам** *(на фота)*, які падчас сустрэчы адзначыў, што беларускі бок зацікаўлены ў стварэнні сумесных з Польшчай прадпрыемстваў і гатовы аказаць неабходную падтрымку. Потым адбылася сустрэча з **Андрэем Кабяковым,** і толькі тады высокі польскі візіцёр паспяшаўся ў будынак Нацыянальнай бібліятэкі на адкрыццё юбілейнага, 20-га, беларуска-польскага эканамічнага форуму.

Можна, канешне, сцвярджаць, што шырокае прадстаўніцтва афіцыйных асоб на адкрыцці форуму звязана менавіта з юбілейнай датай. А прысутнічалі старшыня Савета Рэспублікі **Міхаіл Мясніковіч**, віцэ-прэм'ер **Міхаіл Русы**, амбасадар Польшчы ў Беларусі **Конрад Паўлік**. Але ж...

«*Беларусь і Польшчу звязвае не толькі агульная мяжа. Мы суседзі*, – менавіта так вітаў гасцей форуму **Міхаіл Мясніковіч**. – *Я задаволены цяперашнімі беларуска-польскімі стасункамі, але наперадзе шмат працы. Мы створым максімальна камфортныя ўмовы для развіцця нашых эканамічных дачыненняў*». Пасля прамовы Міхаіл Мясніковіч павіншаваў амбасадара Польшчы **Конрада Паўліка**, якому споўнілася 40 гадоў, і ўручыў дыпламату кветкі...

Паводле слоў віцэ-прэм'ера **Міхаіла Русага**, тавараабарот паміж Польшчай і Беларуссю сёлета перавысіць 2,5 мільярда долараў. Але ў найбліжэйшых планах давесці гэты паказчык да 4 мільярдаў.

Увогуле ўчора гучала шмат лічбаў і заяўлялася шмат планаў. Форум сабраў больш за 500 прадстаўнікоў польскага і беларускага бізнесу.

«*Нішто не спрыяе збліжэнню так, як эканамічныя ўзаемаадносіны. Мы развіваем супрацоўніцтва ў такіх сектарах, як энергетыка, прамысловасць і сельская гаспадарка. Але найбольш важным з'яўляецца развіццё адносін паміж сотнямі, тысячамі і, можа нават, дзясяткамі тысяч малых і сярэдніх прадпрыемстваў. З пункту гледжання важнасці, гэта больш значна, чым развіццё адносін паміж буйнымі фірмамі і банкамі*», – заявіў Матэвуш Маравецкі.

"*Форум важны для стварэння ўмоў «новага адкрыцця»*, – гэта ўжо меркаванне старшыні Польска-беларускай гандлёва-прамысловай палаты **Казімежа Здуноўскага**. – *Трэба, каб улады далі «крэдыт даверу» прадпрымальнікам*».

Падчас форуму былі ўзгоднены некалькі пагадненняў аб супрацоўніцтве ў розных галінах.

Дарэчы, Польшча сёння з'яўляецца трэцім партнёрам Беларусі па тавараабароце пасля Расіі і Украіны, шостым па экспарце і трэцім па імпарце (пасля Расіі і Кітая). З 2000 года беларускі экспарт у Польшчу вырас у 2,8 раза, імпарт з Польшчы – у 4,8 раза. У Польшчы дзейнічае 17 прадстаўніцтваў, даччыных прадпрыемстваў, суб'ектаў таваралправоднай сеткі і дыстрыб'ютараў беларускіх прадпрыемстваў, у тым ліку канцэрна "Белнафтахім", МАЗа, БелАЗа, МТЗ, Беларускай калійнай кампаніі, Нацыянальнай авіякампаніі "Белавія", Беларускай чыгункі. У Беларусі дзейнічае звыш 350 прадпрыемстваў з польскім капіталам.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

АКЦЫЯ

## Новы сэнс старой даты

*У Мінгарвыканкам пададзена заяўка на правядзенне 7 лістапада жалобнай акцыі ў памяць пра ахвяр камуністычных рэпрэсій.*

З такой прапановай да гарадскіх улад звярнуліся лідары апазіцыйных партый правацэнтрысцкага накірунку – рух "За Свабоду", Аб'яднаная грамадзянская партыя і прадстаўнікі аргкамітэта па стварэнні партыі "Беларуская хрысціянская дэмакратыя".

Адным з тых, хто хадзіў у Мінгарвыканкам з гэтай прапановай, быў старшыня руху "За Свабоду" **Юрась Губарэвіч.** Ён расказаў пра фармат і сэнс плануемай акцыі:

– *Заяўка пададзена менавіта на 7 лістапада, якое ў Беларусі дагэтуль лічыцца дзяржаўным святам – Днём Кастрычніцкай рэвалюцыі, днём станаўлення камуністычнага рэжыму, за час панавання якога былі знішчаны сотні тысяч чалавек.*

*Складаецца такое ўражанне, што ні дзяржаўныя кіраўнікі, ні ідэолагі не ведаюць, што з гэтай датай рабіць. Выраслі новыя пакаленні, якія дакладна не ведаюць, кім былі правадыры той рэвалюцыі і за якія ідэалы яны змагаліся. Мы хочам правесці акцыю, каб новае пакаленне беларусаў зразумела, што 7 лістапада – гэта найперш дзень памяці і жалобы. Каб у старой даты, якая дасталася нам у спадчыну з савецкіх часоў, быў новы сэнс.*

Арганізатары акцыі перадалі гарадскім уладам свае пажаданні датычна маршруту і фармату акцыі. Плануецца, што яна распачнецца 7 лістапада ў 12.00 ля сцен будынка КДБ, дзе будуць запалены свечкі, затым удзельнікі мерапрыемства пройдуць шэсцем па праспекце Незалежнасці да сталічнага Парку імя Чалюскінцаў – месца, дзе ў савецкія часы былі расстраляны тысячы людзей.

Якім будзе адказ Мінгарвыканкама, будзе вядома напярэдадні 7 лістапада.

Дарэчы, Юрась Губарэвіч кажа, што пры станоўчым адказе ніякага канфлікту з тымі, хто 7 лістапада прыйдзе на сталічную плошчу Незалежнасці, каб пакласці кветкі да помніка Леніну, не будзе. "*Гэтых людзей аб'ектыўна няшмат. Да таго ж адлегласць ад помніка Леніну да будынка КДБ істотная. Падкрэсліваю, што наша акцыя будзе насіць выключна мірны характар*".

**Антон ВІТАЛЬЕЎ.**

ФАКТ

## Через два года нас перепишут

Александр Лукашенко своим указом назначил дату очередной переписи населения Республики Беларусь – 4–30 октября 2019 года.

В указе определен перечень категорий граждан, привлекаемых местными исполнительными и распорядительными органами власти для проведения переписи населения. Работать привлеченный персонал будет бесплатно с предоставлением освобождения от работы или учебы на период участия в подготовке и проведении переписи с сохранением места работы (должности) и учебы, среднего заработка (стипендии), выплаты пенсии, пособия.



ГРОШЫ

## Як беларусы ўмацоўваюць сваю валюту

*Долар знізіўся на таргах сёмы раз запар.*

На Беларускай валютна-фондавай біржы ўчора прайшлі чарговыя таргі валютамі. Долар і еўра ізноў патаннелі. Долар знізіўся на 0,0025 рубля да 1,9023, еўра патаннеў на 0,0064 да 2,0704 рубля.

Дарэчы, з пачатку месяца долар абваліўся на 0,0245 рубля (мінус 1,27%), еўра – на 0,0847 (мінус 3,93%).

Аналітыкі кажуць, што асноўнай прычынай умацавання нацыянальнай валюты застаецца тое, што насельніцтва ў апошні час прадае больш валюты, чым купляе.

"*З пачатку года чысты продаж валюты фізічнымі асобамі склаў каля паўтара мільярда долараў*, – кажа эканаміст **Барыс Жаліба**. – *У Беларусі чацвёрты год запар зніжаецца валютны прыбытак, але курс беларускага рубля падтрымліваецца на стабільным узроўні, бо людзі прадаюць свае валютныя запасы. Гэтая валюта паступае на рынак і ўраўнаважвае сітуацыю, хаця запасы ў народа не бясконцыя*".

Акрамя таго, як адзначаюць эксперты, зніжэнню долара і еўра паспрыяў рост расійскага рубля адносна гэтых валют.

**Аляксандр НІКАНОРАЎ.**

КАДРЫ

## Сокал замест Вялічкі

*Новы пасол Беларусі ва Украіне Ігар Сокал уручыў даверчыя граматы прэзідэнту Украіны Пятру Парашэнку.*

Загад аб прызначэнні Ігара Сокала паслом ва Украіну Аляксандр Лукашэнка падпісаў яшчэ летам бягучага года. Ігар Сокал змяніў на гэтай пасадзе аднаго з самых вядомых беларускіх дыпламатаў – Валянціна Вялічку, які ўзначальваў беларускую дыпмісію ў Кіеве на працягу 15 гадоў.

Пагадзіцеся, не сенсацыя. Звычайная ратацыя кадраў, якая, на добры лад, павінна была здарыцца раней. Паводле дыпламатычных канонаў, як правіла, на пасадзе пасла дыпламаты працуюць 4–5 гадоў. А тут аж 15! Звяртае ўвагу іншая акалічнасць: Ігар Сокал – не прафесійны дыпламат, а яму даручаны такі важны накірунак, як Украіна. Праўда, у яго біяграфіі ёсць пасада амбасадара Беларусі ва Узбекістане.

– *Сокал – былы вайсковец*, – адзначае аналітык **Раман Якаўлеўскі.** – *Гэтае прызначэнне можна трактаваць так, што афіцыйнаму Мінску ў Кіеве патрэбны не столькі дыпламат, колькі, кажучы савецкай тэрміналогіяй, моцны гаспадарнік. Такі, якім быў на гэтай пасадзе Валянцін Вялічка. Дарэчы, мне цяжка сказаць, ці застанецца ў дыпламатычнай абойме сам Валянцін Уладзіміравіч. У першую чаргу праз узрост. Вялічку сёлета споўнілася 72 гады, не выключана, што яго могуць адправіць на заслужаны адпачынак. Аднак, улічваючы ўсе яго заслугі, магу сказаць адно: хутчэй за ўсё, да яго парад і высноў будуць прыслухоўвацца.*

Высветліць падрабязнасці пра далейшы лёс Валянціна Вялічкі мы паспрабавалі ў МЗС Беларусі. Ці застанецца ён на дыпламатычнай службе? Ці варта чакаць яго хуткага пераводу на працу ў іншую краіну? Ці ўсё ж такі Валянцін Уладзіміравіч адправіцца на заслужаны адпачынак?

– *Мы такія рэчы не каменціруем*, – заўважыў начальнік упраўлення інфармацыі – прэс-сакратар МЗС Беларусі Дзмітрый Міронічык. – *Гэта не ў нашай кампетэнцыі. Амбасадары – гэта наменклатура кіраўніка дзяржавы. Усе пытанні з прызначэннем ці пераводам на іншую працу прымаюцца прэзідэнтам краіны.*

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

**З асабістай справы**

Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Беларусі ва Украіне Ігар Сяргеевіч Сокал нарадзіўся 4 сакавіка 1962 года ў Маладзечне. У 1983-м скончыў агульнавайсковае каманднае вучылішча імя Фрунзе ў Кіеве, у 1995-м – Кіеўскі нацыянальны ўніверсітэт, у 2000-м – Акадэмію кіравання пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь.

З 1983-га па 2000 год Ігар Сокал служыў ва Узброеных сілах. З 2004-га па 2008-ы працаваў начальнікам упраўлення міжнароднага супрацоўніцтва і гандлю апарату Савета міністраў Беларусі, затым быў прызначаны Надзвычайным і Паўнамоцным Пасламу Беларусі ва Узбекістане. З 2013-га па 2015-ы Ігар Сокал быў начальнікам галоўнага ўпраўлення Расіі ў МЗС Беларусі. Апошняй пасадай Сокала перад ад'ездам ва Украіну была такая: кіраўнік апарату Савета міністраў Беларусі.

ВЕДАЙ НАШЫХ!

## Ёсць яшчэ порах...

*Беларускі велагоншчык Васіль Кірыенка працягвае перамагаць на міжнародных стартах.*

Днямі ён выйграў гонку з раздзельным стартам Chrono des Nations, якая прайшла ў Францыі. Кірыенка праехаў дыстанцыю за гадзіну, чатыры хвіліны і восем секунд.

А ў сярэдзіне кастрычніка беларус заваяваў сярэбраны медаль на чэмпіянаце свету па веласпорце на шашы, які прайшоў у Катары.

Дарэчы, гэтым летам Васілю Кірыенку споўнілася 35 гадоў, і сам спартсмен называе сябе "амаль што ветэранам". Але, як бачым, сілаў не паменшала...

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

БЕЛАРУСЬ–ЕС

## Санкцыі здымуць?

Намеснік прэм'ер-міністра Беларусі **Анатоль Калінін** на перамовах у Бруселі з камісарам па еўрапейскай палітыцы суседства і перамоў аб пашырэнні **Ёханесам Ханам** закрануў пытанне аб магчымым поўным зняцці санкцый Еўрасаюза з Беларусі.

Аб афіцыйным візіце ў Брусель беларускай дэлегацыі, які адбыўся на мінулым тыдні, паведаміла прэс-служба ўрада. У інфармацыі сцвярджалася, што Ёханес Хан адзначыў, што абавязкова абмяркуе пытанне аб санкцыях са сваімі калегамі-еўракамісарамі.

Калінін і Хан таксама абмеркавалі стратэгію і ўдзел Беларусі ў адным з найважнейшых сёння міжнародных праектаў – «Усходняе партнёрства».

Як вядома, у лютым гэтага года асноўную частку санкцый супраць Беларусі ЕС адмяніў. У сіле засталося эмбарга на пастаўку зброі і персанальныя абмежаванні супраць чатырох чалавек, якіх ЕС лічыць датычнымі да знікненняў апазіцыйных палітыкаў у 1999–2000 гадах. У чорным спісе ЕС засталіся **Уладзімір Навумаў** (былы міністр унутраных спраў), **Віктар Шэйман** (былы кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта), **Юрый Сівакоў** (у перыяд знікнення палітыкаў займаў пасаду кіраўніка МУС) і **Дзмітрый Паўлічэнка** (камандзір брыгады спецназа ўнутраных войскаў МУС).

